*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2020, № 8(54). Ліпень

# Слонімец Станіслаў Даніловіч — славуты віленскі злотнік

Пра гісторыю Слонімшчыны мы ўжо ведаем даволі шмат — ёсць і навуковыя, і навукова-папулярныя працы, публікацыі ў прэсе. Аднак адкрыцці не сканчаюцца. Наша гісторыя настолькі багатая на асобы, на падзеі, што яшчэ доўга даследчыкамі будзе складацца мазаіка.

Нядаўна аўтарытэтны беларускі гісторык, сфрагіст і геральдык Анатоль Цітоў выдаў кнігу, у якой упершыню комплексна даследуецца злотніцкае (ювелірнае) майстэрства ў Беларусі.* Гэта проста фантастычная абагульняючая праца, якая грунтуецца на ўсіх даступных крыніцах. І ў ёй згадваюцца слонімскія майстры.

Самым славутым злотнікам-ураджэнцам Слоніма быў Станіслаў Даніловіч. Ён нарадзіўся дзесьці ў 1640-я гады. Даніловіч вучыўся злотніцкаму рамяству ў Вільні з 1662 года: быў 5 гадоў вучнем у віленскага злотніка Граковіча, пасля ў 1669-1670 гадах *“адбыў службу таварыскую”* (гэта значыць, быў падмайстрам) у Юрыя Александровіча. Віленскім грамадзянінам (атрымаў дазвол на сталае жыхарства) ён стаў у 1670-м. Неаднаразова Даніловіча абіралі старшым злотніцкага цэха.

Цітоў падкрэслівае, што гэты майстра запачаткаваў дынастыю злотнікаў — Даніловічаў.



*Сургучны адбітак пячаткі горада Слоніма канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. З кнігі Анатоля Цітова “Злотніцтва Беларусі...”*

Злотнікам стаў сын Станіслава Даніловіча Юрый (Георг) Даніловіч. У 1693-м ён запісаўся вучнем на 5 гадоў да бацькі, а ў 1698-м запісаўся да яго ўжо *“таварышам”*. Цітоў згадвае Себасцьяна Даніловіча, які з 1725-га быў вучнем у віленскага злотніка П. Эльса, а пасля стаў падмайстрам. Адзначаецца, што бацька Себасцьяна паходзіў са Слоніма.

Даніловіч-старэйшы пакінуў больш за 30 вучняў, а сярод іх былі слонімцы. Гэта значыць, што падчас жыцця ў сталіцы ВКЛ Станіслаў Даніловіч не губляў сувязі з родным горадам. Анатоль Цітоў адзначае *“дух зямляцтва”*, якім слонімец карыстаўся, падбіраючы памочнікаў. Злотнік, які дасягнуў *“найвышэйшай дасканаласці ў сваёй кар’еры”*, памёр у 1706 годзе (па іншай версіі — у 1703-м).**

Аналіз караценькіх біяграфічных даных злотнікаў са Слоніма дадае яшчэ адзін факт да гісторыі Станіслава Даніловіча. У Вільню з нашага горада ён прыехаў не адзін. У тым жа 1662 годзе ў вучні да віленскага

*Працяг на ст. 2*

# Слонімец Станіслаў Даніловіч — славуты віленскі злотнік

*Працяг, пачатак на ст.1.*
злотніка Граковіча запісаўся слонімец Ян Дамброўскі (пасля ён быў у яго і падмайстрам). Тады ж да злотніка Шнэйдэра ў Вільні запісаўся на два гады ў вучні Ян Сасноўскі са Слоніма.

Аўтар даследавання піша, што ў Слоніме было *"шмат майстроў-злотнікаў... рознай ступені кваліфікацыі"*. Ён сабраў звесткі пра 8 майстроў (не лічачы згаднага вышэй Даніловіча), якія працавалі ў другой палове XVII стагоддзя, і гэты спіс няпоўны. Па XVIII стагоддзі звестак менш — толькі пра двух слонімскіх злотнікаў, а іх павінна было быць больш.

У 1668 годзе на 2,5 гады запісаўся ў вучні (а ў 1671-м — у падмайстры) да віленскага злотніка Грэтэра Мацвей Дабраборскі са Слоніма. Відавочна, што продкі яго паходзілі з вёскі Добры Бор (цяпер у Баранавіцкім раёне). У 1669-м у Вільню прыязджае са Слоніма Андрэй Дабраборскі. Ён запісаўся вучнем на 2 гады да віленскага злотніка Яна Андрэеўскага, а ў 1672-м — у падмайстры на 2 гады да віленскага злотніка Дзялтовіча. Вядома, што Андрэй Дабраборскі атрымаў віленскае грамадзянства.

Чаму слонімскія хлопцы з'язджалі ў той час у Вільню? *"У пошуках лепшага жыцця"*. Слонімшчына яшчэ аднаўлялася пасля вайны і маскоўскай акупацыі. Вільня, як сталіца ВКЛ, "загойвала раны" хутчэй — там было шмат добрых майстроў, больш замоваў ды і ўмовы жыцця ў вялікім горадзе былі іншыя. Калі слонімцы замацоўваліся ў Вільні, за імі цягнуліся іх сябры, сваякі.

У 1670 годзе ў Станіслава Даніловіча з'явіўся вучань Мацей Спадоба, які прыехаў са Слоніма. Праз два гады ён быў у яго ўжо падмайстрам. У 1676-м запісаўся на 2,5 гады ў вучні (а пасля і ў падмайстры) да віленскага злотніка Рагацэвіча Станіслаў Карпоўскі са Слоніма. У 1677 годзе ў Вільню прыехаў слонімец Язэп Вайціцкі. Ён запісаўся на шэсць гадоў вучнем да Станіслава Даніловіча. Да яго ж у вучні на 4,5 года ў 1678-м запісаўся Лукаш Грэгаровіч са Слоніма. У 1679 годзе да таго ж Даніловіча ў вучні на 2 гады (а пасля — у падмайстры) запісаўся слонімец Ян Леняровіч. У 1681-м яго ж вучнем на 4,5 года (пазней — падмайстрам) стаў Міхась Сасноўскі са Слоніма. Не ўсе слонімцы, якія навучаліся ў майстроў у Вільні, заставаліся ў сталіцы ВКЛ. Вядома, што згаданы Сасноўскі ў 1701 годзе быў злотнікам у Барунах (цяпер — Ашмянскі раён). Зусім магчыма, што некаторыя вярталіся на Слонімшчыну.

Са злотнікамі звязана нямала крымінальных гісторый. У адну з іх трапіў Адам Тэадоравіч Зелянеўскі, злотнік *"з места Слоніма родам"*. У ноч з 23 на 24 чэрвеня 1707 года ён... абакраў у Магілёве брацкую царкву. Злодзея злавілі. Ён быў асуджаны на *"шыбеніцу ў полі"*. Але дзякуючы крымінальнай хроніцы таго часу імя гэтага слонімца засталося ў гісторыі.



Нашы землякі працягвалі ехаць на вучобу ў Вільню і ў XVIII стагоддзі. У 1724 годзе са Слоніма прыехалі Валянцін Сасноўскі і Валянцін Сабалеўскі. Яны запісаліся на шэсць гадоў вучнямі да віленскага майстры Траянскага (ці да майстроў Траянскіх). Сабалеўскі з нейкіх прычын навучання не скончыў. 30 жніўня 1725-га на 6 гадоў запісаўся ў вучні да віленскага злотніка Сніткі слонімец Сымон Гузоўскі.

Да канца XVIII стагоддзя, калі ВКЛ трапіла ў склад Расійскай імперыі, абсалютную большасць злотнікаў складалі хрысціяне — у асноўным каталікі і ўніяты. Як адзначае Анатоль Цітоў, расійскія ўлады іх не лічылі лаяльнымі, таму зрабілі стаўку на майстроў-юдэяў, якім дазвалялі працу. І ўжо ў XIX стагоддзі сярод злотнікаў яны складалі большасць. А з часоў Рэчы Паспалітай нам вядомы толькі некалькі слонімскіх яўрэяў, якія займаліся злотніцтвам. Напрыклад, Мендэль, які ў 1754 годзе жыў у Слоніме на Сакалоўскай вуліцы (Ружанскай?). На 1764-ы з ім жылі жонка Пельта, два сыны (адзін з іх Залман), маці Бася. Злотнік Нохім Юдковіч таксама жыў на Сакалоўскай. На 1754 год ён меў пляц і на гарадскім рынку, дзе, відаць, працаваў.

У XIX стагоддзі ў Слоніме дзейнічалі не менш за 10 майстроў-злотнікаў, але рамеснікаў, якія займаліся і злотніцтвам, і вырабам пячатак было больш — не менш за 20 чалавек. Цітоў робіць выснову, што ў XIX стагоддзі па колькасці ювеліраў Слонім быў на першым месцы сярод беларускіх павятовых гарадоў (канкурэнтам мог быць толькі Беласток).*** А ўвогуле наш горад уключаны ў лік паўтара дзясяткаў асноўных цэнтраў




злотніцтва ў Беларусі.

Вядома, што ў 1863 годзе ў Слоніме былі наступныя *"майстры залатых і срэбраных спраў"*: Беранштайн Літман Файвішавіч, Бернікоўскі Іцка Гіршавіч, Гейлінг Іцка Кадышавіч, Забалінскі Вігдэр Шмеркавіч, Забалінскі Хайм Гірш Шмеркавіч, Казіцкі Ліпа Рубінавіч, Файнгольд Вігдэр Ёселевіч, Файнгольд Іцка Абрамавіч.

У канцы стагоддзя згадваецца Міхель-Фішэль Хайкелеў (Хайкелевіч) Шпіра, слонімскі мешчанін. У сакавіку 1891-га яму было 25 гадоў. Ён з'яўляўся кандыдатам на пасаду старшыні слонімскага цэха майстроў залатых і гадзіннікавых спраў. Яшчэ адным кандыдатам быў слонімскі мешчанін Моўша Пейсахавіч Фрыдман. Ён нарадзіўся каля 1865 года. На сакавік 1895-га быў купцом 2-й гільдыі.

Як бачым, Анатоль Цітоў вярнуў нам дзясяткі прозвішчаў слонімскіх майстроў ці тых, хто паходзіў са Слоніма, але займаўся злотніцтвам у іншых гарадах, найперш у Вільні. Шкада, што сярод ілюстрацый у кнізе няма прыкладаў іх прац.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

**Цітоў А. Злотніцтва Беларусі. XII — пачатак XX ст. — Мінск: Беларусь, 2020. — 271 с.*

***Тамсама. С. 68-69, 87.*

****Злотніцтва Беларусі… С. 69.*

IN MEMORIAM

# Генерал з Нагуевічаў

19 чэрвеня ў Мінску памёр наш зямляк Аляксандр Андрэевіч Гундар. Генерал-вайсковец. З сярэдзіны 1990-х ён быў дырэктарам канцэртнай залы “Мінск” і паказаў сябе выдатным арганізатарам.



*Аляксандр Гундар / Ваяр*

Гундар нарадзіўся ў Нагуевічах 23 красавіка 1944 года. Ён нярэдка расказваў гісторыю, якую чуў ад маці, пра тое, як у чэрвені 1944-га нямецкія карнікі ледзь не расстралялі жыхароў вёскі. Але здарыўся цуд: у Нагуевічы прыскакаў невядомы вершнік, які перадаў нейкі загад нямецкаму афіцэру — і ён са сваім падраздзяленнем з’ехаў, а сагнаных людзей пакінуў. Тады маці Сашы схавалася каля дома, а нямецкі салдат знайшоў па плачы толькі маленькага сына, які ляжаў на зямлі — перавярнуў яго на спіну і сышоў.

Ён з малых гадоў дапамагаў бацьку-франтавіку, а ў 13 гадоў, пасля яго смерці, пайшоў працаваць на калгаснай ферме. У сям’і яшчэ быў малодшы брат і дзве сястры. Вучыўся ў вячэрняй школе. Аднойчы Саша Гундар заняў першае месца ў БССР сярод маладых жывёлаводаў. Яго ўзнагароджвалі ў Мінску, прадставілі як камсамольца. А ён прызнаўся, што ў камсамол не ўступаў. Узнагароду ўсё ж аддалі, а пасля вяртання дахаты хлопца тэрмінова прынялі ў камсамол.*

Кіраўніцтва калгаса адправіла юнака ў Гродна паступаць у сельскагаспадарчы інстытут. Саша мог стаць аграномам, а не генералам. Але ён не здаў апошні іспыт і вярнуўся дахаты. А тут яго ўжо чакалі ў слонімскім ваенкамаце. Там пасля медагляду Гундару прапанавалі паступаць у вайсковую вучэльню. Іспыты ў Харкаўскай вайсковай авіяцыйна-тэхнічнай вучэльні ён здаў кепска — не хапала ведаў, бо калі ж было вучыцца — працаваў. Але яго ўзялі — за рашучасць, настырнасць і “веру ў перамогу” (ён са сваімі 30 працоўнымі граматамі хадзіў да “галоўнага генерала”, расказваў пра сваё цяжкае жыццё і працу, абяцаў старанна вучыцца). Скончыў вучэльню Аляксандр Гундар з чырвоным дыпломам.**

У войску наш зямляк служыў 30 гадоў (агулам у яго было 19

месцаў службы, апошняе — на радзіме) — пачаў у СССР, а скончыў ужо ў незалежнай Беларусі. Паспеў адвучыцца ў вайсковай акадэміі імя Леніна. Звольнены ў запас у званні генерал-маёра ў 47 гадоў. Быў кіраўніком справамі Дзяржаўнага камітэта па антыманапольнай палітыцы пры Саўміне, а ў 1994-м яго прызначылі кіраўніком рэспубліканскага культурна-асветнага цэнтра, той самай КЗ "Мінск". Аляксандр Андрэевіч быў актыўным у грамадскай камісіі па пытаннях культуры пры Мінабароны.

Пахавалі слонімца на Кальварыйскіх могілках сталіцы.

●Аляксандр Янушка

**Пахомович Н. Наступать на всех фронтах // Во славу Родины, 2019, 23 красавіка, № 46.*

***Бебенина О. Генерал удачи // Советская Белоруссия, 2009, 23 апреля, № 76.*

# "У яго гаспадарцы ўсё працуе як гадзіннік"

*"Новаму дырэктару дзякуючы яго ўпартасці і настойлівасці ўдалося зрабіць канцэртную залу "Мінск" не толькі найпрыгажэйшым будынкам, але і першай канцэртнай пляцоўкай сталіцы, да з'яўлення Палаца Рэспублікі. Зараз абодва канкурэнты паспяхова дзеляць канцэртны рынак, амаль не перасякаючыся. Хоць інтрыга захоўваецца.... У дырэктара вядома ж мноства планаў. Але і цяпер у яго гаспадарцы ўсё працуе як гадзіннік. Спектаклі, канцэрты, творчыя вечары, звычайна, 25-26 мерапрыемстваў у месяц. Тэатралы і меламаны ведаюць канцэртную залу "Мінск" як сцэнічную пляцоўку, дзе выступаюць найцікавыя тэатральныя трупы і выканаўцы...",* — пісала "СБ".



# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6, 7, 2020 г.*

## Лёс Жыровічаў у часы ўладання трох сыноў Івана Солтана

Пасля смерці бацькі Івана Солтана Жыровічамі валодалі яго сыны Яраслаў, Іван і Давыд Солтаны. 25 снежня 1587 года Яраслаў Іванавіч Солтан прадаў за 5000 літоўскіх грошаў палову маёнтка Жыровічы свайму брату Івану Солтану. Маёнтак перайшоў Івану ва ўладанне разам з братам Давыдам. З-за адсутнасці наяўных грошай апошні вырашае прадаць сваю частку брату. Акт быў запісаны ў Слонімскіх гарадскіх кнігах таго ж года.

Маёнтак Жыровічы прыносіў Івану Солтану прыстойны даход. Ён быў старастам горада Астрыно (сёння — гарадскі пасёлак у Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці), а Жыровічы здаваў у арэнду. У 1603 годзе арандатарамі маёнтка на 4 гады сталі яўрэі з горада Хомска Іцхак Міхялевіч і яго жонка Эстэр.

Але праз два гады ў Шчары было знойдзена цела арандатара, у забойстве якога абвінавацілі Івана Солтана. Прычынай забойства нібыта стала эпідэмія і смерць прыгонных сялян маёнтка Жыровічы з-за *“моравай язвы, паветрыя моравага, которое вже на тот час и в месте Слониме и по многим околицам, сёлам и дворах размножилося”*. Віну за распаўсюджванне эпідэміі і абнішчанне свайго маёнтка Солтан усклаў на арандатара-яўрэя Іцхака Міхялевіча. Баяры і сяляне з суседніх вёсак сцвярджалі, што прычынай



АКТЫ
ИЗДАВАЕМЫЕ
ВИЛЕНСКОЮ КОММИССІЕЮ
ДЛЯ РАЗБОРА ДРЕВНИХЪ АКТОВЪ.

Томъ XXII.
АКТЫ СЛОНИМСКАГО ЗЕМСКАГО СУДА.

ВИЛЬНА.
Типографія А. Г. Сыркина, Большая улица, собств. домъ № 88.
1895.

эпідэміі сталі прыяцелі Іцхака, якія прыязджалі са Слоніма да яго ў Жыровічы, ездзілі па вёсках і рабілі пакупкі.

Слонімскі староста Леў Сапега запатрабаваў Івана Солтана да суда. Той адмаўляў сваю віну і не прызнаўся ў забойстве арандатара. Ён нават знайшоў чалавека, які прыняў забойства на сябе. Але гэта ні да чаго не прывяло, паколькі слонімскі падстараста Іван Мялешка даведаўся, што так званы шляхціц Якуб Вянцковіч зусім не харунжы павета Ваўкавыскага і не валодае маёнткам не толькі там, але ў яго няма надзелу ва ўсім ВКЛ. Слонімскі суд “наклаў” на Івана Солтана “галаўшчызну” і вынес прысуд *“на горло”*. У Статуце 1588 года пакаранне *“горлам”* азначала пакаранне смерцю за забойства роўнага па сацыяльным стане чалавека, а “галаўшчызна” — вялікі штраф за забойства і за нанясенне ран, які спаганялі з вінаватага на карысць сваякоў забітага.

Солтан падаў апеляцыю ў Галоўны трыбунал ВКЛ. Пабачыўшы, што там не пройдзе нумар з падстаўным забойцам Вянцковічам, пачаў хавацца. Пакаранне смерцю не было выканана. А кароль і вялікі князь Жыгімонт III у 1606 годзе падпісаў баніцыйны ліст на Івана Солтана, якім ён пазбаўляўся ўсіх правоў, маёмасці і мусіў пакінуць межы дзяржавы. Як склаўся далейшы лёс Солтана, невядома.

26 ліпеня 1620 года Даніла Солтан, сын Давыда, перадаў свайму сваяку, манаху-базыльяну Андрыяну Падбярэскаму і ордэну базыльянаў частку манастыра і іншай маёмасці ў Жыровічах, якой валодаў.

## II. У часы Яна Мялешкі

Мялешкі — старажытны шляхецкі род герба "Корчак", прадстаўнікі якога займалі ў ВКЛ вышэйшыя ваенна-адміністрацыйныя пасады. Адным з вядомых прадстаўнікоў роду быў Ян Мялешка (1552 — 1622) — маршалак слонімскі, кашталян мсціслаўскі, брэсцкі і смаленскі. У 1606 годзе Мялешка выкупіў частку Жыровіцкага маёнтка ў Эстэр, удавы Іцхака Міхялевіча — яна валодала ім паводле рашэння суда, як кампенсацыяй за нявыплачаны Солтанам штраф. Другую частку ён выкупіў у 1621-м у Льва Сапегі (ён набыў яе ў Д. Солтана). Маёнтак Жыровічы, манастыр, храмы Ян Мялешка перадаў ордэну базыльянаў з умовай вечнага ўспаміну яго, яго жонкі і дзяцей.

Пасля смерці Яна Мялешкі ў 1622 годзе яго маёмасць перайшла да дачкі Багданы, у замужжы Пржэцлаўскай (Працлаўскай). Яна пацвердзіла ўсё, што бацька перадаў базыльянам. Сабе яна пакінула толькі дом ля царквы і могілак у якасці пажыццёвага валодання — на выпадак яе прыезду ў Жыровічы.

## III. Уладальнікі маёнтка Старыя Жыровічы Пржэцлаўскія (Працлаўскія)

Сярод уладальнікаў Старых Жыровічаў згадваецца і род Пржэцлаўскіх (Працлаўскіх). З адным з нашчадкаў гэтага роду мне давялося пазнаёміцца па перапісцы. Галіна Алейнікава з Масквы даслала мне копіі дакументаў з Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіву, сярод якіх ёсць радавод яе продка, капітана артылерыі і кавалера Ксаверыя Ігнатавіча Пржэцлаўскага, складзены ў 1828 годзе для прадастаўлення доказаў дваранскага паходжання. Ён дазваляе прасачыць уладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з XVI стагоддзя.

У лісце Галіна Алейнікава піша: *"На жаль, пра продкаў Пржэцлаўскіх я даведалася толькі са сваіх архіўных пошукаў: мая прапрапрабабуля —Маргарыта Ксавер'еўна Пржэцлаўская ў дзявоцтве, Казлоўская ў замужжы. Я нават і не ведала, кім былі бацькі прадзеда, у нас не захаваліся сямейныя фатаграфіі, бо ў сям'і былі рэпрэсаваныя, але архіўныя пошукі прынеслі вынікі. Для мяне было дзіўным, калі я выявіла, што родныя браты Пржэцлаўскія служылі ў розных арміях: хто ў рускай, хто ў войску польскім. Вядомы Восіп Пржэцлаўскі, як відаць з схемы радаводу, быў стрыечным братам "майго" Ксаверыя Пржэцлаўскага, і я знайшла ў яго мемуарах згадку пра тое, як пасля напалеонаўскага нашэсця Ксаверый, які апынуўся ў той час у родных месцах на Слонімшчыне, не дазваляў нікому з праходзячых войскаў рабаваць мясцовых жыхароў.*

*Аб Ксаверыі Ігнатавічы мне вядома даволі шмат. Нарадзіўся ён 21.07.1787 года ў Слоніме, там жа быў ахрышчаны ў Слонімскай парафіяльнай царкве. Навучаўся ў Гродзенскім кадэцкім корпусе, з 1805 года — падпаручык 1-га артылерыйскага палка. У 1808 годзе — паручнік. З 02.03.1811 года месца службы — 4-я рэзервовая артылерыйская брыгада, у якой "знаходзіўся ў розных паходах і справах супраць непрыяцельскіх войскаў, і за аказанае "отличие"*




*Галіна Алейнікава падчас генеалагічнай канферэнцыі*

*Працяг на ст. 8*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 6-7*

*ўзнагароджаны ордэнам Св. Ганны 4 класа". З 31.07.1812 года —штабс-капітан. Ажаніўся ў 1815 годзе з дачкой багатага тульскага купца, Мар'яй Кандрацьеўнай Белабародавай. Гэта наогул асобная гісторыя, бо родная сястра Мар'і, Глафіра была замужам за Мікалаем Якаўлевічам Сцечкіным і вядомыя прадстаўнікі гэтага прозвішча — гэта іх нашчадкі. Неўзабаве пасля жаніцьбы выйшаў у адстаўку з-за хваробы, капітанам артылерыі. Дзесьці паміж 1815 і 1817 гг. набывае ва ўласнасць сяло Пірагова, яно ж Зыкава, у Крапівенскім павеце Тульскай губерні. Падаў дакументы на ўключэнне ў дваранскую кнігу радаводаў Тульскай губерні, род быў унесены ў 6 частку кнігі. Памёр у 1861 годзе ва ўзросце 73 гадоў. Перад смерцю (у той жа дзень) прыняў праваслаўе пад імем Сава".*

Старадаўні шляхецкі род Пржэцлаўскіх герба "Глаўбіч" сыходзіць глыбокімі каранямі да віленскага ваяводы Андрэя Пржэцлаўскага, пра якога вядома з 1611 года. Мы згадвалі пра дачку Мялешкі Багдану, якая стала жонкай Андрэя Пржэцлаўскага.

Выпіска са Слонімскага павятовага суда сведчыць пра тое, што слонімскі харунжы, будучы віленскі ваявода Андрэй Андрэевіч Пржэцлаўскі ад 10 снежня 1611 года валодаў двума маёнткамі ў Слонімскім павеце. Род Андрэя Пржэцлаўскага быў заможны. Пра гэта сведчыць тое, што 28 ліпеня 1623 года Пржэцлаўскі купляе ў Данілы



*Фрагмент радаслоўнай роду Пржэслаўскіх, дасланы Галінай Алейнікавай*

і Крысціны Солтанаў маёнтак Скоўдзічы з прыналежнай вёскай Салтанаўшчынай ў Слонімскім павеце. У 1624 годзе памірае жонка Андрэя Пржэцлаўскага, якая пакідае мужу спадчынныя маёнткі свайго бацькі Яна Мялешкі: Жыровічы, Бусяж і Спорава.

Наступны дакумент — гэта копія фінансавання Жыровіцкага шпіталя, у якой Андрэй Пржэцлаўскі наказвае аддаваць штогод, пачынаючы з 1629-га, 16 бочак жыта, ячменю 6 бочак, адну — гароху, сала, смятанковае масла, копу сыроў, 30 вазоў дрэў і 10 злотых. Фундуш быў падрыхтаваны ў 1628 годзе. Далей ідзе копія ліста Пржэцлаўскага свайму швагру, мітрапаліту Кіеўскаму ад 2 траўня 1630 года аб планах аб'езду Жыровіцкай маёмасці.

Паколькі ў Андрэя Пржэцлаўскага не было дзяцей, то маёнтак Жыровічы 3 ліпеня 1640 года ён перадаў сваім родным пляменнікам Сігізмунду, Андрэю і Хрыстафору Пятровічам Пржэцлаўскім.*

Слонімскі падстолі Андрэй Пятровіч Пржэцлаўскі ў шлюбе з Даротай Бржастоўскай меў двух сыноў — Сцяпана і Казіміра, якія пасля смерці бацькі падзялілі спадчынны маёнтак Жыровічы, а пасля смерці свайго дзядзькі віленскага каноніка Хрыстафора Пятровіча, уступілі ў права валодання маёнткам Салтанаўшчына.

Салтанаўшчына з фальваркамі Міронімам і Прусаўшчызнаю (Прусоўшчынай) дасталася бельскаму старасце Казіміру Андрэевічу Пржэцлаўскаму, а маёнтак Старыя Жыровічы з фальваркам Літва — яго брату Сцяпану Андрэевічу Пржэцлаўскаму.

Бельскі староста і слонімскі падстараста Казімір Андрэевіч Пржэцлаўскі ад другога шлюбу з князёўнай Лукомскай меў чацвёра сыноў: Андрэя, Гедэона, Івана і Антона. Яны пасля смерці свайго бацькі Казіміра і бяздзетнага брата Івана падзялілі маёмасць, аб чым 17.05.1715-га і 16.02.1716 года ў актах Слонімскага гродскага суда былі зроблены запісы. Маёнтак Салтанаўшчына з фальваркамі Міронімам і Прусаўшчызнаю (Прусоўшчынай) былі падзелены паміж братамі: бельскім старастам Андрэем, слонімскім падсудкам Гедэонам і слонімскім падкаморым Антонам Пржэцлаўскімі.

Брэсцкі стольнік Сцяпан Андрэевіч Пржэцлаўскі ажаніўся на Крысціне

Корсакавай, меў у шлюбе сыноў Антона, Аляксандра і дачку Кацярыну, якая была жонкай рэчыцкага стольніка Катовіча. Аляксандр Сцяпанавіч Пржэцлаўскі меў двух сыноў — Фадзея і Міхаіла. Брэсцкі стольнік Антон Сцяпанавіч Пржэцлаўскі па грамаце караля Станіслава Аўгуста ад 13.03.1770 года быў прызначаны суддзёй Слонімскага павятовага суда, меў сына Канстанціна.

Канстанцін Антонавіч Пржэцлаўскі выкупіў частку валодання маёнткам Старыя Жыровічы ў сваіх стрыечных братоў Фадзея і Міхаіла, якая засталася ім у валоданне пасля бацькі Аляксандра Сцяпанавіча Пржэцлаўскага.

●Святлана Брайчук

Працяг у наступным нумары

**Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1343, воп. 27, спр. 6514.*

# “Глыбокая мінуўшчына падаецца ўчорашнім днём”

Дырэктар беларускага выдавецтва “Мастацкая літаратура”, паэт Алесь Бадак выказаўся з нагоды жыровіцкіх юбілеяў:

“Першы раз я пабываў там [у Жыровічах] у другой палове 1980-х, калі мы, студэнты БДУ трапілі ў Слонім на вайсковыя зборы. Апошні па часе раз быў у Жыровічах летась, калі ў Слоніме адзначаўся Дзень беларускага пісьменства. І хоць за гэтыя дзесяцігоддзі там шмат што змянілася, менавіта ў такіх святых месцах адчуваеш усю ўмоўнасць часу і глыбокая мінуўшчына падаецца ўчорашнім днём. У будзённым жыцці душа ў табе звычайна схавана недзе глыбока: усё нейкія клопаты, мітусня, спрэчкі. А там яна быццам агаляецца і на яе сыходзіць урачыстасць і пакорлівасць. Сам па сабе гэты факт нельга назваць ачышчэннем, але адчуць у сабе адухоўленасць — гэта таксама немалаважна”.



*Алесь Бадак / sb.by*

*СБ. Беларусь сегодня, 2020, №99, 23 траўня.*

# Экспанаты маскоўскага музея

"СК" пісаў пра альбом з фотаздымкамі чамяроўскай школы 1960-х гадоў, які захоўваецца ў фондах Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве.* Там жа ёсць і іншыя экспанаты, звязаныя са Слонімам. Напрыклад, партрэт бальшавіцкага правадыра і стваральніка Савецкага Саюза Уладзіміра Леніна (Ульянава), выкананы з пер'яў птушак. У апісанні пазначана, што ў 1949 годзе яго стварылі ў нашым горадзе мастак са Случчыны Мікалай Валынец разам з Леанідам Сокал-Кутылоўскім (верагодна, сынам аднаго з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну 1920-га). У якасці падарунка яшчэ аднаму савецкаму правадыру Іосіфу Сталіну яны ў той час таксама стварылі яго партрэт, выкарысталі для гэтага... кляновае лісце. Ад БССР падарункі былі дасланыя ў сталіцу тагачаснага СССР. Невядома, ці бачыў іх Сталін.

У музеі ёсць фота Спаса-Праабражэнскага сабора ў Слоніме — бромасрэбраны адбітак на кардоне. Яно пазначана 1914 годам. Здымак трапіў у Маскву з Вільні.

А яшчэ ў фондах музея знайшлася паштоўка (?) з ваявай нашага славутага земляка-паўстанца Міхала Валовіча.

●СЁ

**У Маскве знайшліся здымкі Чамяроўскай школы і яе вучняў 1964 года // Слонімскі край, 2020, № 7(53). Чэрвень. С. 16-17.*









3 ліпеня ў вёсцы Парэчча сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл наведалі сімвалічную магілу камандзіра паўстанцкага атрада ў 1833 годзе Міхала Валовіча. Яны ўшанавалі яго памяць і памяць іншых паўстанцаў. Гэта ўжо стала традыцыяй. Калі ў міжваенны час памяць Валовіча на Слонімшчыне ўшаноўвалі найперш польскія патрыёты, дык цяпер — беларускія. Міхал Валовіч аддаў маладое жыццё за Бацькаўшчыну і свой народ.

# Слонімскія храм і кляштар на карце XVIII стагоддзя

260 гадоў таму, у 1760 годзе, была створана карта “літоўскай” правінцыі бернардзінцаў. Яе аўтар — мастак-гравёр Гірш Ляйбовіч, які працаваў на князёў Радзівілаў. Ён змясціў на карце выявы храмаў і кляштароў, у тым ліку і слонімскіх.

Бачым, што ў касцёла бернардзінцаў (цяпер — праваслаўны сабор св. Тройцы ў Слоніме) ужо ёсць дзве прыбудаваныя капліцы. Гэта сведчыць пра тое, што Ляйбовіч карыстаўся актуальнымі малюнкамі храмаў і кляштароў, ці перад пачаткам працы над картай нават спецыяльна ездзіў на іх паглядзець. Калі паўночная капліца была прыбудавана да




касцёла ў 1668-м, то паўднёвая капліца — у 1750 годзе.* Таксама гравёр пакінуў нам першапачатковую выяву вежы храма.

●СЁ

*Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 40.*

## Сінагогу пакуль не прадалі

У чэрвені прайшоў аукцыён, на якім спрабавалі прадаць слонімскую сінагогу, помнік архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя. Жадаючых яе купіць не знайшлося. Чакаецца новы аукцыён, кошт будзе удвая меншы.

Фонд яўрэйскай спадчыны з Лондана нібыта мае намер набыць будынак. Але будуць патрэбны сродкі на рэстаўрацыю, а гэта, як мяркуецца, каля пяці мільёнаў еўра. Таму фонд па-ранейшаму шукае спонсараў.

# Пра гадзіннік

У міжваенны час на фасадзе двухпавярховага будынка на плошчы Вольнасці (цяпер гэта скрыжаванне вуліц Пушкіна, Першамайскай, Янкі Купалы і Маякоўскага) у цэнтры Слоніма быў гадзіннік. Яго можна пабачыць на паштоўцы таго часу. У савецкія часы на тым месцы з'явіўся герб (на жаль, не нашага горада), а ў канцы XX стагоддзя — электроннае табло, якое паказвала час (здаецца, і тэмпературу паветра таксама).

Не выключана, што гадзіннік з'явіўся на будынку, дзе была крама Руткоўскага, яшчэ да Першай сусветнай вайны. У кнізе Ул. Ліхадзедава ёсць паштоўка імаверна таго часу з гадзіннікам.




Пры польскай уладзе яшчэ адзін гадзіннік знаходзіўся на чыгуначным вакзале. Але слонімцы часам наракалі, што ён паказваў неактуальны час.

●Генадзь Гурскі

# Паштоўка 1916 года

Летам 2020-га на сайце ebay.de прадавалася яшчэ адна невядомая слонімская паштоўка, выдадзеная немцамі падчас Першай сусветнай вайны. На ёй бачым узарваны чыгуначны мост праз Шчару. У кнізе Ліхадзедава яе няма.

●ГГ

# Слонімцы і справа “Беларускага нацыянальнага цэнтра”

У 1933 годзе спецслужбы БССР прыдумалі справу так званага “Беларускага нацыянальнага цэнтра”, па якой былі арыштаваны ўцекачы з Заходняй Беларусі (ці палітвязні, якіх абмянялі). Бальшавікі бачылі небяспеку ў гэтых людзях, бо яны былі адукаваныя, мелі досвед легальнай ці нелегальнай палітычнай дзейнасці. І галоўная іх віна — беларускі патрыятызм. Для жыхароў Заходняй Беларусі камуністычная прапаганда падтрымлівала міф аб свабоднай і заможнай беларускай савецкай дзяржаве. Але рэаліі былі такія, што ніякай свабоды ў БССР не было, а рэпрэсіі пашыраліся. Безумоўна, сярод інтэлігентаўвыхадцаў з Заходняй Беларусі было расчараванне. Магчыма, што некаторыя з іх думалі пра супраціўленне. Савецкія спецслужбы не сталі вылоўліваць асобных патэнцыйных антысаветчыкаў — быў нанесены ўдар адразу па вялікай групе беларускай інтэлігенцыі.



Новы час

Арышты па справе “БНЦ” прайшлі летам-восенню 1933 года. Паколькі ў рэальнасці такой арганізацыі не было, каты выбівалі патрэбныя паказанні з людзей, прымушалі іх выдумляць нават “праграмныя дакументы”. Па справе ў пачатку 1934-га было асуджана амаль сто чалавек. Усіх іх рэабілітавалі ў 1956 годзе. Сярод гэтых людзей былі і нашы землякі. Нядаўна апублікавалі спіс асуджаных з кароткімі біяграмамі.* Сярод 30 расстраляных быў студэнт Вышэйшага педінстытута Рыгор Аляхновіч. Ён нарадзіўся 2 лютага 1901 года ў вёсцы Міжэвічы. Аляхновіча арыштавалі 10 жніўня 1933 года. Смяротны прысуд быў вынесены 9 студзеня 1934-га, расстрэл здзейснілі 21 траўня таго ж года. Як піша даследчык Аляксандр Гужалоўскі, гэта быў першы масавы расстрэл беларускай інтэлігенцыі.** Ён адбыўся у Мінску (тады — Менску) ў ноч з 17 на 18 траўня і з 21 на 22 траўня 1934 года.

У кіраўнікі “БНЦ” быў запісаны Максім Бурсевіч з Чамяроў, вядомы заходнебеларускі палітык. На момант арышту ў жніўні 1933 года ён працаваў у Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры Беларускай Акадэміі навук. Яго таксама асудзілі на расстрэл, які быў заменены 10 гадамі “папраўча-працоўных лагераў”. Бурсевіча расстралялі ў 1937-м.

Таксама расстрэл замянілі 10 гадамі зняволення і Міканору Кігану (Кічану). Ён нарадзіўся ў 1901 годзе ў Міжэвічах. На момант арышту ў верасні 1933-га працаваў загадчыкам Бягомльскага раённага аддзела народнай адукацыі Віцебскай вобласці. Пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім лагеры. Далейшы лёс невядомы.

Па справе “БНЦ” праходзіў Фёдар Ліхач з вёскі Вострава, 1900 года нараджэння. Ён быў выкладчыкам рабфака БДУ. Яго арыштавалі 11 жніўня 1933-га, а 9 студзеня 1934 года асудзілі на 10 гадоў лагероў. Звесткі пра Ліхача адшукаліся ў базе рэпрэсаваных. У 1926-1927 гадах ён быў яшчэ ў родных месцах, з’яўляўся сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Слонімец выжыў у зняволенні, быў вызвалены 4 верасня 1943 года.*** Далейшы лёс невядомы.

У спісе асуджаных па справе “БНЦ” ёсць яшчэ некалькі ўраджэнцаў былога Слонімскага павета (іх вёскі цяпер у Дзятлаўскім раёне). Гэта — Ігнат і Іларыён Дварчаніны з Погіраў. Першы быў выканаўцам абавязкаў дырэктара Інстытута мовазнаўства, другі — намеснікам дырэктара Беларускага дзяржаўнага паляўнічага заказніка. Расстрэл ім замянілі 10 гадамі зняволення. На такі ж тэрмін быў асуджаны 30-гадовы Юрый Тарасюк з вёскі Лявонавічы, навукова-тэхнічны супрацоўнік Беларускай Акадэміі навук. На 5 гадоў быў асуджаны 43-гадовы Язэп Мацюкевіч з вёскі Гернікі, які працаваў намеснікам дырэктара Інстытута мовазнаўства.

●Генадзь Гурскі

*Спіс арыштаваных і асуджаных па справе “Беларускага нацыянальнага цэнтру” // Arche, 2020, № 1(164). С. 42-54.

**Гужалоўскі А. Першы масавы расстрэл беларускай інтэлігенцыі // Arche, 2020, № 1. С. 40.

***Жертвы политического террора в СССР; http://lists.memo.ru/index12.htm

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г.,№ 5(39), № 7(41), 2019 г.; № 5(51), № 6(52), № 7(53), 2020 г.*



*Лідскія футбалісты, якія выбілі слонімцаў з барацьбы ў “клясе B” баранавіцкай падакругі. Фота: sb.by*

У папярэдняй частцы мы згадвалі, што не было пацверджанняў удзелу слонімскіх каманд у 1932 годзе ў “клясе B” баранавіцкай падакругі футбольнага першынства Віленскай акругі. У слонімскай хроніцы ў прэсе проста не пісалі пра гэта, але ў лідскай хроніцы звесткі знайшліся! У суботу, 23 ліпеня, Makabi Słonim прымала на гарадскім стадыёне PKS Lida (каманду паліцыі). Гэта быў адзін з матчаў “плэй-оф” “клясы B”. Пераможца працягваў барацьбу за выхад у “клясу A”. Слонімцы найлепшай лідскай камандзе прайгралі — 0:3. Судзіў паядынак паручнік 79-га пяхотнага палка Вайтовіч. Пра другі матч каманд інфармацыі няма. Магчыма, пераможца вызначаўся ў адной гульні. У любым разе, як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары, у наступным раўндзе ўдзельнічалі футбалісты PKS Lida і проста расчаравалі сваіх заўзятараў.

“Макабісты” не былі папулярныя сярод мясцовых палякаў і беларусаў, якія больш сімпатызавалі армейцам. У 1932-м з’явілася футбольная каманда паштовых работнікаў, якую ў мясцовых газетах называлі Sparta. Пазней футбалісты заявілі, што насамрэч іх каманда называецца Pocztowy klub sportowy. У канцы ліпеня яна правяла два таварыскія матчы і адразу заявіла пра сябе, як пра перспектыўную каманду. Спачатку была баявая нічыя з WKS Słonim (у прэсе нярэдка не пазначалі якога палка каманда, 79-га ці 80-га, ці гэта іх зборная) — 1:1, а пасля — нічыя з Makabi (лік невядомы). У польскай прэсе пісалі пра *“несімпатычную і брутальную гульню “макабістаў”*.

Футбольныя матчы ў Слоніме працягвалі адбывацца ў суботы. Напрыклад, 6 жніўня ў Слонім зноў прыехала Makabi Wołkowysk. Іх слонімскія аднаклубнікі святкавалі перамогу з лікам 5:1. У жніўні ў Слоніме адбылася сустрэча прадстаўнікоў клуба Makabi (яго кіраўнік Лёц і кіраўнік футбольнай секцыі Касоўскі) і артадаксальных яўрэяў (Вайнштэйн і Шэрэшэўскі). Апошнія патрабавалі адмовіцца ад спартыўных мерапрыемстваў у суботы. Працяглая дыскусія была безвыніковай. “Макабісты” заявілі, што перанос тых жа футбольных матчаў на нядзелю прывядзе да фінансавых страт (менш людзей наведае футбол). Яны маглі б пагадзіцца толькі ў выпадку, калі б артадоксы праспансіравалі клуб — 1000



lidzka

— PKS. LIDA — „MAKABI" SŁONIM 3:0. — W sobotę ub. tygodnia na boisku sportowem WF. i PW. w Słonimie, lidzka drużyna PKS. rozegrała mecz piłki nożnej o mistrzostwo klasy „B" podokręgu z drużyną „Makabi" ze Słonima. Mecz zakoń-

злотых на сезон. Але тыя нават чуць пра гэта не хацелі. Суботнія матчы працягваліся.

У суботу, 20 жніўня, гулялі дзве Makabi — са Слоніма і Баранавічаў. Госці выйгралі з лікам 5:0. На матч сабралася рэкордная колькасць заўзятараў — каля 2 тысяч чалавек. Праз тыдзень на сустрэчу Makabi са Слоніма і Навагрудка на гарадскі стадыён прыйшло ўжо толькі 1500 чалавек. Судзіў пан Урублеўскі. Слонімцы выйгралі з лікам 5:1. Заўзятары наладзілі ім *“сардэчную авацыю”.*

10 верасня ў рамках мерапрыемства LOPP на гарадскім стадыёне адбыўся чарговы таварыскі футбольны матч. Анансавалася, што будуць

*Працяг на ст. 16*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 15*

гуляць "макабісты" і "паштавікі", але ў выніку сустрэліся зборныя каманды вайсковых і грамадзянскіх клубаў. Суддзя Касоўскі зафіксаваў баявую нічыю 2:2.

Восенню 1932 года ў Слоніме было разыграна футбольнае першынство горада. Нам вядома пра пяць каманд, якія ў ім ўдзельнічалі: WKS 79 pp, WKS 80 pp, Makabi, Szkoła Rolnica Żyrowice, Pocztowy kłub sportowy. Гэта быў аднакругавы турнір — усе каманды гулялі паміж сабой. На жаль, вядомы толькі некалькі вынікаў.

Цікава, што фаварытам у тым жа "Навагрудскім кур'еры" называлася жыровіцкая каманда — на яе баку былі сімпатыі заўзятараў-беларусаў і палякаў. Аднак выйграць першынство яна не змагла. Szkoła Rolnica Żyrowice не здолела перамагчы ў пачатку кастрычніка ў важным



матчы з WKS 80 pp — нічыя 1:1. Армейцы адкрылі лік на 35-й хвіліне і мелі перавагу ў першым тайме. У другой палове гульні жыровіцкія хлопцы адыграліся. Суддзя пан Урублеўскі за грубую гульню выдаліў аднаго з футбалістаў WKS, але лік у апошнія хвіліны гульні ўжо не змяніўся. Апошнім паядынкам турніру была сустрэча Szkoła Rolnica Żyrowice і Pocztowy kłub sportowy. Першы тайм быў за першай камандай, якая *"здабыла тры брамкі"* (забіла тры галы). У другой палове паштавікі здолелі забіць два галы (апошні — за тры хвіліны да фінальнага свістка). Жыровіцкія хлопцы перамаглі з лікам 3:2. Аднак гэты вынік ужо не меў вялікага значэння. Першынство Слоніма і пераходзячы кубак выйграла каманда WKS 79 pp. Пры гэтым нам невядомы ніводны вынік матчаў з яе ўдзелам. Другое месца заняла каманда WKS 80 pp.

Але на гэтым сезон яшчэ не скончыўся — у суботы па-ранейшаму праходзілі таварыскія матчы. Нам вядома, што 22 кастрычніка паштавікі абыгралі армейцаў з 80-га палка — 1:0.

●Сяргей Ёрш

Працяг у наступных нумарах

# Вуліца Жвіркі і Вігуры праіснавала ў Слоніме сем гадоў

Цяперашняя вуліца Чкалава ў Слоніме атрымала гэтую назву ў часы савецкай улады. Прыгадваю, як у 1990-я старажылы часта згадвалі яе ранейшую назву — Жвіркі і Вігуры. Яна існавала падчас польскай улады. Францішак Жвірка і Станіслаў Вігура — вядомыя польскія лётчыкі, пераможцы міжнародных авіяцыйных спаборніцтваў. Жвірка быў вайскоўцам у званні паручніка, а Вігура — інжынерам, авіяканструктарам, грамадзянскім пілотам. Яны загінулі ў авіякатастрофе на польска-чэшскай мяжы 11




верасня 1932 года.

Гібель лётчыкаў, якіх у польскай прэсе называлі няйнакш як героямі, стала сапраўднай трагедыяй. Хваля

*Працяг на ст. 17*

жалобы прайшла па ўсёй краіне. А пасля пачалася хваля ўшанавання памяці Жвіркі і Вігуры. У малых і вялікіх гарадах у іх гонар называлі вуліцы. У Слоніме таксама.

Група жыхароў нашага горада (відаць, з ліку польскіх чыноўнікаў і інтэлігенцыі) склала петыцыю ў магістрат, у якой прапанавала разгледзець пытанне перайменавання адной з вуліц горада. Для гэтага была выбрана 2-я Турэмная вуліца. Бо навошта такая назва, калі ўжо ёсць адна Турэмная вуліца?! Да таго ж у гонар польскіх герояў трэба было назваць нейкую важную і вялікую вуліцу. Але ж у цэнтры горада ўжо і так амаль усё перайменавалі: Пілсудскага, Уланская, 3 Мая, Сянкевіча, Міцкевіча, Панятоўскага, Касцюшкі…

Да канца верасня магістрат зацвердзіў перайменаванне 2-й Турэмнай вуліцы ў вуліцу Жвіркі і Вігуры.* У публікацыях у прэсе падкрэслівалася, што гэта *"важная камунікацыйная артэрыя"*, якая найперш злучала кароткім шляхам вайсковы гарнізон з вакзалам і складамі.

У 1932-м гэтую вуліцу рамантавалі, брукавалі, бо яна *"танула ў балоце"* (на вуліцы былі два невялікія масты). У верасні гэтыя працы прыспешыліся. Яны працягваліся яшчэ ў кастрычніку. І вось 28 кастрычніка 1932 года вуліца Жвіркі і Вігуры была ўрачыста адкрытая. Гарадскі бюджэт з цяжкасцю знайшоў патрэбную суму грошай — 30 тысяч злотых. *"Горад атрымаў шырокую, прыгожую вуліцу…"*, — пісаў "Навагрудскі кур'ер". **

●Генадзь Гурскі

**Kurjer Nowogródzki, 1932, № 243, 30 верасня.*

***Kurjer Nowogródzki, 1932, № 274, 31 кастрычніка.*



**Słonimska**

— DZIESIĘCIOLECIE SEMINARJUM NAUCZYCIELSKIEGO MĘSKIEGO W SŁONIMIE. W dniu 22 września br. Państwowe Seminarjum Nauczycielskie Męskie w Słonimie obchodziło dziesięciolecie

czynny udział w akcji udzielania zapomóg i wsparć bezrobotnym i instytucjom o charakterze filantropijnym.

— ULICA IMIENIA ŻWIRKI I INŻ. WIGURY W SŁONIMIE. Na skutek złożonej petycji do magistratu miasta Słonima przez mieszkańców ul. II-giej Więziennej, magistrat na ostatniem posiedzeniu uchwalił przemianować wyżej wspomnianą ulicę — na ulicę imienia śp. bohaterskich lotników polskich.

*Вуліца Жвіркі і Вігуры на плане Слоніма 1934 года*

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім

*Заканчэнне, пачатак у № 8-12, 2019 г., № 2-7, 2020 г.*

"СК" заканчвае публікацыю ўспамінаў ураджэнца Косава Яна Сцяпанавіча Плястэна (Жука, Жукоўскага, Жук-Жукоўскага, Левандоўскага і г. д.; 1889 — 1937), упершыню надрукаваных амаль 90 гадоў таму.* У іх аўтар расказвае пра рэвалюцыйныя падзеі ў Слоніме і на Слонімшчыне ў 1905-1906 гадах.

Калі мы, вучні, задыхаліся ў задушлівай атмасферы на ўласнае жаданне, свядома ахвяруючы сабой, так бы мовіць, у імя ідэі першатравенськага свята, то нашы педагогі пакутвалі з-за ўласнай упартасці, з жадання захаваць свой начальніцкі прэстыж. Каму было горш, здагадацца не цяжка. Але мы былі няўмольныя і вырашылі зрабіць яшчэ адну спробу, яшчэ адзін гераічны высілак, каб сарваць урок. На вялікай перамене Абрам Асакоўскі паклікаў у ціхае месца мяне і Батуру, і перадаў нам піўную бутэльку са смярдзючай вадкасцю чорнага колеру.




Гэтая вадкасць, якую загадзя падрыхтаваў у бліжэйшай аптэцы правізор-бундавец**, была апошняй надзеяй.

Мы з Батурам накіраваліся ў клас, хаваючы пад адзеннем каштоўную пляшку. У пярэднім пакоі было пуста і дзверы ў нашым класе адчынены насцеж. Я заняў варту каля дзвярэй канцылярыі вучэльні, Батура накіраваўся да дзвярэй нашага класа. Праз секунду раздаўся трэск разбітай бутэлькі. Батура кінуў яе аб кут печкі з такой сілай, што яна разляцелася ўшчэнт, запырскаўшы ўсю сцяну і, утварыўшы на падлозе вялізную чорную лужыну. Вадкасць была такая вострая і атрутная, што некалькі кропель патрапілі на боты і штаны вучню Жылінскаму, прапалілі іх наскрозь. Пакой напоўніўся такім жахлівым выпарэннем, што заставацца ў ім не было сіл.



Зрабіўшы сваю справу, мы незаўважна выскачылі з будынка, а за намі з шумам і крыкам выбеглі вучні, якія былі ў класе, калі мы кідалі бутэльку. Не ведаючы, у чым справа, яны былі напалоханы і ўсхваляваны. Ім здавалася, што рэвалюцыянеры кінулі бомбу. На шум выбег увесь педагагічны персанал і кінуўся ў наш апусцелы клас. Там на падлозе чарнела лужына, бліcчэлі аскепкі шкла, а на сцяне былі бачныя чорныя пырскі. Злачынства было відавочнае, але вінаватага знайсці не ўдалося. З роспытаў савет вучэльні высветліў, што бутэлька з хімічным складам была кінута невядомымі людзьмі, якія ўварваліся ў клас.

Нягледзячы на адкрытыя насцеж дзверы і вокны, смурод у класе не змяншаўся. Працягваць урокі ў нашым класе не было магчымасці. Лапа перавёў нас у пакой першага класа. Тут было не лепш і, пасля 15 хвілін пакутаў, ён вымушаны быў перарваць заняткі. Фактычна мы выйшлі пераможцамі: урокі, хаця і бліжэй да канца, былі сарваныя, і мы, унутрана задаволеныя, накіраваліся па хатах.

Пад вечар, сабраўшыся на біржы, мы дзясяткі разоў расказвалі рабочым нашы

першатравеньскія подзвігі і пакуты. Яны смяяліся і хвалілі нас. У гэты ж дзень, з некаторым спазненнем выйшла выробленая на гектографе пракламацыя ад імя “Саюза рэвалюцыйных сацыялістаў” (максімалістаў), напісаная Барысам Рабіновічам. Яна пачыналася словамі “Першае траўня, свята працы і вясны” і была вельмі цёпла сустрэта таварышамі. Змяркалася, калі за высокім плотам аднаго з агародаў, прылеглых да біржы, мы наладзілі нелегальную масоўку, на якой, акрамя Рабіновіча, выступала яшчэ некалькі чалавек. Разышліся ўжо ўначы.

У канцы траўня пачаліся выпускныя іспыты. Усе выпрабаванні я вытрымаў даволі лёгка і добра. Значна больш складанай была справа з алгебрай, геаметрыяй і арыфметыкай, але і тут з грахом папалам, пры дапамозе розных хітрыкаў, я неяк атрымаў здавальняючы бал. Думаю, што гэтаму садзейнічаў наш настаўнік Сцяпан Мацвеевіч Лапа, які жадаў, каб ніхто з яго выхаваўцаў не застаўся на другі год, што падымала яго рэпутацыю, як добрага педагога. Атрымаўшы 6-га чэрвеня атэстат аб заканчэнні вучэльні, абмяняўшыся з сябрамі фотаздымкамі, я сардэчна развітаўся з слонімскімі таварышамі і з’ехаў у Косава з цэлым стосам нелегальнай літаратуры. Цяпер я быў свабодны і перада мной адкрыўся новы самастойны шлях рэвалюцыйнай працы.

●А. Левандоўскі

**Левандовский А. На заре жизни // Каторга и ссылка, 1931, № 4. С. 100-124.*

***Аптэчны работнік, фармацэўт, сябра яўрэйскай партыі Бунд.*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Шмуэль Гіршгорн

Сярод пісьменнікаў і журналістаў, ураджэнцаў нашага горада, незаслужана забытае імя Шмуэля Гіршгорна. А гэта быў інтэлектуал, добра вядомы ў міжваеннай Польшчы.

Гіршгорн нарадзіўся ў Слоніме ў 1876 годзе. Як і паэт Гальяш Леўчык, з’ехаў у Варшаву. Вядома, што ён скончыў там камерцыйную школу. З юнацтва Шмуэль Гіршгорн пісаў вершы — на ідыш і па-польску. Яго захапленнем былі пераклады. Між іншым, ён перакладаў на польскую мову творы яўрэйскай літаратуры (яны выйшлі ў зборніку ў 1921-м).

А яшчэ Шмуэль Гіршгорн вядомы як журналіст, друкаваўся ў шматлікіх яўрэйскіх выданнях. Ён быў аўтарам гістарычнай працы, прысвечанай жыццю і дзейнасці яўрэяў у Польшчы ў 1788-1914 гадах (яна выйшла на польскай і ідыш у 1921 і 1923 гадах).

Гіршгорн быў і палітыкам. У 1903-м ён удзельнічаў у выданні палітычнай брашуры, прысвечанай сіянізму. Уваходзіў у гарадскі савет Варшавы,



*Шмуэль Гіршгорн*

выбіраўся дэпутатам польскага Сейма. У некаторых публікацыях слонімца называюць *“лідарам польскіх яўрэяў у перыяд паміж двума сусветнымі войнамі”.* Калі больш дакладна — быў лідарам адной з плыняў у яўрэйскім руху — народнікаў.

Слонімец загінуў 28 траўня 1942 года. Падчас ліквідацыі Варшаўскага гета нацыстамі ён скончыў жыццё самагубствам. Гіршгорн у тыя жахлівыя дні вёў дзённік, які на жаль не захаваўся.

●Генадзь Гурскі

# Галіна Венцэк-Пшыбыла

На Польскім радыё Шчэцын з 1965 года працавала музычным рэдактарам Галіна Венцэк-Пшыбыла. У адзінай выяўленай яе біяграме месцам нараджэння пазначаны Слонім (без года). Венцэк-Пшыбыла скончыла вышэйшую музычную школу ў Лодзі. Яна вядомая як аўтарка і вядучая музычных праграм, публіцыст, пераможца агульнапольскіх журналісцкіх конкурсаў.

●ГГ

*Фота: dziennikarze.szczecin.pl*



СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Летнік для дзяцей са Слоніма ў Альбярціне

З 15 ліпеня да 29 жніўня 1932 года ў Альбярціне ў мясцовай школе быў арганізаваны летнік для дзяцей з бедных сем'яў жыхароў Слоніма. Там адпачывалі 52 дзіцяці — хлопчыкі і дзяўчынкі. Апекаваліся ім слонімскія дабрачынныя арганізацыі і 79-ы пяхотны полк. На адкрыцці летніка быў граф Уладзіслаў Пуслоўскі. Фота апублікавала ваяводская газета "Навагрудскі кур'ер".*

●СЁ

**Kurjer Nowogródzki, 1932, № 211, 29 жніўня.*



КНІГАРНЯ

## "Ад Слоніма да Жыровічаў"

Слонімскі краязнаўца і літаратар Сяргей Чыгрын працягвае выдаваць кнігі. Чарговы зборнік артыкулаў выйшаў у Баранавічах.* Ён мае назву "Ад Слоніма да Жыровічаў: Гісторыка-краязнаўчыя артыкулы". Змест амаль ідэнтычны з кнігай, якая нядаўна выйшла ў Мінску і пра якую мы пісалі ў мінулым нумары.** У ёй дадалося некалькі тэкстаў пра Жыровічы і крыху ілюстрацый. Кніга з'явілася на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат". Дарэчы, калі на вокладцы напісана "Жыровічаў", дык далей — "Жыровіч" (магчыма, гэта хіба электроннага варыянту?). З-за такога недагляду пасля ў розных публікацыях будуць блукаць два варыянты назвы адной кнігі.

●СЁ

**Чыгрын С. Ад Слоніма да Жыровічаў: Гісторыка-краязнаўчыя артыкулы. — Баранавічы, 2020. — 130 с.*

***Гаворка пра кнігу "Цяпло Жыровіцкай святыні" (Мінск: Беларусь, 2020). Рэцэнзія: Ёрш С. Пра адметнасць кніг слонімскага краязнаўцы // Слонімскі край, 2020, № 7(53). Чэрвень. С. 20.*

## "Сцежкі-пуцявіны" Пятра Бурсевіча

Слонімскі мастак 84-гадовы Пятро Бурсевіч выдаў цудоўную кнігу, у якой падсумоўвае свой шматгадовы творчы набытак. У яе ўвайшлі малюнкі, рэпрадукцыі карцін, проза, вершы, змешчаны публікацыі з розных выданняў пра творчасць Бурсевіча.




*Фота: racyja.com*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com